# НОВАЕ ЖЫЦЬЦЁ

Цана асобнага нумару 500 м. п.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільна, Біскупская вул. 12. (Biskupia 12).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 штодня апрача сьвяточных дзён.

**Выходзіць раз у тыдзень.**

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2000 м. п. Для заграніцы ўдвая даражэй.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад ня вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 1000 мк., сярод тэксту 800 мк. і на апошняй страніцы 600 мк. за радок пэтыту ў 1 шпальт.

**№ 2** **Субота, 10-га сакавіка 1923 г.** **Год I.**


**У гэтым нумары 6-ць страніц.**



## Задача бліжэйшага дня.

Пабеда на выбарах у Варшаўскі Сойм і Сэнат дала беларускаму насяленьню пад уладай Польшчы магчымасьць бароцца за свае правы на парлямэнцкім грунце. Беларускія дэпутаты маюць магчымасьць бараніць інтарэсы сваіх выбаршчыкаў **пры укладаньні законаў**. Але, незалежна ад законаў, якія некалі будуць мець сілу, нам на кожным кроку прыходзіцца бароцца за нашае права ў тых установах на мясцох, ад якіх залежыць буднае жыцьцё вёскі ўся **гаспадарка ў валасьцёх і паветах,** а імена: ў гмінных радах і павятовых сойміках.

Гмінныя рады і Соймікі блізу на ўсей тэрыторыі Заходняе Беларусі былі створаны ў часе гаспадараваньня ліхой памяці пана Юрыя Асмалоўскага — галавы „Zarządu Cywilnego Ziem Wschodnich". Ня дзіва, што ўстановы гэныя былі так „сфабрыкаваны", каб кіраўніцтва гаспадаркай гмін і паветаў апынулася ў руках польскіх паноў і поўпанкаў. Ясна, якую палітыку яны тамака павялі...

У прошлым годзе ў некаторых гмінах адбыліся выбары новых гмінных рад. І вось мы бачым, што там, дзе яны адбыліся, блізу ўсюду зусім перамяніўся склад радаў і дух іх: „панскі дух" беларускія сяляне пачалі энэргічна выкурываць. Народ зразумеў, што ўсе свае справы—ўсе справы воласьці і павету—трэба браць у свае рукі.

На вялікі жаль, выбары новых гмінных рад і соймікаў праведзены ня ўсюды: яны чамусьці затрымаліся. Праўда, і дэлегат польскага ўраду, Роман, завяраў нашых паслоў, цантральныя ўлады тое-ж казалі, што гэта справа будзе даведзена да канца. Калі гэтыя абяцанкі будуць споўнены,—няма ведама. Але мы павінны загадзя быць прыгатаваны да таго, каб і па выбарах у гмінныя рады і ў соймікі дайсьці такое-ж пабеды, як на выбарах у Сойм і Сэнат.

Гэта—самая важная справа сучаснага мамэнту. Дык няхай усе жывыя сілы вёскі, якія прыймалі ўчасьце ў соймавых выбарах, згуртуюцца ізноў, няхай загадзя прыгатуюцца да працы і забясьпечаць нашаму сялянству яго права самаму кіраваць справамі гміны і павету.

*Лаурыновіч.*

## Пагроза беларускай школе у Латвіі.

Беларуская школа ў Латвіі апынулася прыблізна ў лепшых абставінах як у іншых мясцох падзелянай Беларусі. Латвійскі ўрад прыхільна глянуў на беларускае адраджэньне і даў магчымасьць свабодна разьвіваць школьную справу. Сяляне, зразумеўшы карысьць і патрэбу навучаньня ў роднай мове, сталі патрэбаваць сваіх школ, лік якіх у апошнія часы шпарка павялічываўся, а з боку беларускасьці сталі прынімаць усё больш выразны і пэўны воблік.

Усё гэта ўстрывожыла расейскую чорную сотню, якая выгнана бальшавікамі зьвівае свае логвы па замежжамі. Карыстаючыся з грошай эміграваных палітыкаў і прагнаных генералаў, расейская чорная сотня ў Латвіі, наехаўшая туды за часоў царызму, змагла наладзіць выбарны апарат і, абдурыўшы малa сьвядомую беларускую масу, правяла ў Сойм трох сваіх паслоў. Пачуўшы гэткім чынам сваю моц, яны паднялі паход процiў беларусаў ня толькі ў Сойме, але ў прэсе расейскай у Латвіі і за граніцай. Так завомы „орган демократической мысли Рижскій Курьер" пачаў друкаваць подлую брахню і кідаць гразьзю на беларускі рух і яго працаўнікоў. Не адстае і „Вестник Самообразования" (у Бэрліне), які са слоў рыскага „Маяка" аб беларускай школе робіць маркотныя вынікі, бо там дзе „по закону было абавязковае навучаньне парасейску больш як 100 гадоў цяпер раптам заводзяцца неякія „бело-русския" школы". Зразумела, што ў тон гэтым плакальшчыкам за цара пачала гаўкаць і польская газэта ў Рызе „Głos Polski", а ей адклікнуўся нават тутэйшы „Kurjer Warszawski". Воўк ваўка далёка чуе.

Увесь гэты гвалт, паднятыкаля беларускай школы дайшоў да Латвійскага Сойму, дзе праз прадстаўнікоў гэтай чорнай хаўрузіі была ўнесена прапазыцыя аб скасаваньні буджэту на Беларускі Аддзел, а ад Міністэрства Асьветы быў пасланы кіраўнік сярэдніх школ у Латвіі для выясьненьня абегаючых чутак каля беларускіх школ. Ясна, што ўсё аказалася злоснай выдумкай, а буджэт на Беларускі Аддзел быў бадай аднагалосна зацьверджаны.

З свайго боку Беларускі Аддзел, апіраючыся на закон, праз Міністэрства Унутраных Спраў, прымусіў ўсе гэтыя „органы демократической мысли" надрукаваць пісьмо Беларускага Аддзела з доказамі беспадстаўнасьці закідаў на беларусаў.

Статыстычныя даныя—чытаем мы ў пісьме — аб 70000 беларусаў ў Латвіі ёсьць сапраўдная цыфра, якая пацьверджаецца латвійскай перапіскай ў 1920 і 1921 годзе, таксама і расейскай перапіскай у 1898 г. Аб істнаваньні беларусаў у Латвіі кажа і той матар'ял, з дзіаграмамі і мапамі, які быў прадстаўлены латвійскай дэлегацыі на мірнай канфэрэнцыі ў Парыжы.

На закіды, быццам беларускія школы пустуюць і ліквідуюцца, Белар. Ад. заяўляе, што за кароткі час (31-XI-921 г.) адкрыта ўжо 52 пачатковых школ, адна сельска-гаспадарская школа, вучыцельскія курсы і дзьве сярэднія школы. Апрыч таго ў Латгаліі ёсьць цэлы шэраг культурна-прасьветных беларускіх установ у гарадох і вёсках, якія вядуць вячэрнія курсы, ладзяць спэктаклі, арганізуюць бяседы, робяць дапамогі бяднейшым вучням і інш.

Трэба верыць у цьвярозаць розуму Латвійскага Народу, які сам дайшоў да сваей незалежнасьці праз даўгую цярністую дарогу—ён далёкі ад думкі, каб у яго дзяржаве былі прыгнечаны іншыя нацыянальнасьці, каб дзікі шовінізм таптаў законныя правы нацыянальных меншасьцяў.

Да гэтай элемэнтарнай праўды дабавім справядлівыя словы беларускага паэта:

Напасьцяй, лаянкай напраснай
Язык ня варта мазаліць.
Не пагасіць вам праўды яснай:
Жыў беларус і будзе жыць!

**Р. Юргілевіч.**

## Весткі з Сойму.

У прасьветнай камісіі разглядалася школьнае пытаньне для нацыянальных меншасьцяў. Пастаноўлена даручыць Ураду найхутчэйшае апрацаваньне уставы аб закладаньню і ўтрыманьню пачатковых, сярэдніх і прафэсыянальных школаў для нацыянальных меншасьцяў, а таксама аб назначэньні ў украінскія школы вучыцялёў украінскай нацыянальнасьці. Эндэкі, хадэкі і дубадзкі галасавалі процiў гэтых прапазыцый.

Зямельная камісія разглядала праэкт уставы аб асыгнаваньні 50 мільярдаў марак на асаднікаў. Беларускія і ўкраінскія паслы горача пратэставалі процiў гэтага. Ад беларусаў выступаў пасол Рагуля.

У прасьветнай соймавай камісіі прыняты прапазыцы украінскага пасольскага клюбу 1) аб прыняцьці на утрыманьне дзяржавы украінскай прыватнай гімназіі ў Луцку, 2) адкрыцьці украінскай вучыцельскай сэмінарыі на Валыні, 3) арганізацыі украінскіх і беларускіх пачаткавых школаў.

## З газэт.

### Куды ідуць?

„Walka Robotnicza" ў № 6, абгаварываючы угодлівую палітыку з панующымі панамі беларускага і украінскага пасольскіх клюбаў, піша:

„У нацыянальных жаданьнях, паміма шумных фраз, былі умяркаванымі і скромнымі: школьная справа, свабода рэлігіі, зьнясеньне асадніцтва і прыняцьце пад увагу пры адбудове патрэбаў мяйсцовай люднасьці. Дбаласьць аб культурна-нацыянальнай абасобленнасьці і часовыя патрэбы люднасьці, закрыла перад імі ўсе вялікія соцыяльныя патрэбы, ад вырашэньня якіх залежыць лёс і будучына іх краю. Закрыла перадусім справу зямельнай рэформы, вялікай уласнасьці і зямельнага голаду на крэсавых абшарах. Выключыла памяць аб сваіх работніках, якія працуюць у газавай і драўлянай прамысловасьці для францускага, ангельскага і польскага капіталу, арганізацыя і быт якіх носяць пляму найгоршай няволі".

Адзначыўшы, што дзякуючы галасам украінскіх і беларускіх паслоў урад Сікорскага ўтрымаўся і атрымаў для свайго ўрадаваньня мільярдныя крэдыты, газэта шукае прычын гэтай палітыкі і бачыць яе ў страху перад заборчым нацыяналізмам „Хіены", якая імкнецца да „spolszczenia" канстытуцыі, абсалютнай паланізацыі крэсаў праз пляновае асадніцтва на зямлі, ў прамысловасьці і гандлю".

А што-ж такое польская левіца, якую выбралі нашы паслы, як найменшае зло?

„Пяст" у сваёй праграме дамагаецца „правядзеньня пляновага асадніцтва на меней залюдненых землях". P. P. S. яшчэ нядаўна змагалася ў сваім лагеры аб аўтаноміі для Усходняй Галіччыны, а разам з N. P. R і Wyzwoleniem — ў абароне агульна-нацыянальных (польскіх. Рэд.) інтарэсаў—вяла братазабойчую барцьбу ў Галіччыне і на Шлёнзку. Левіца, дбаючы аб найбольшай мілітарнай і гаспадарчай магутнасьці дзяржавы не выракаецца багацьцяў зямлі і рабочай сілы на крэсавых абшарах усё роўна, як і польская буржуазія".

## Палітычныя падзеі.

**Літва.** Утварыўся новы Кабінэт Міністраў з Гальванаўскасам на чале. Гальванаўскас абняў кіраўніцтва міністэрствам заграничных спраў і часова міністэрствам беларускіх спраў.

Урадам Літоўскае Рэспублікі высокім камісарам Клайпэды назначаны Смэтона Мытная граніца паміж Клайпэдай і Літвой зьнесена. Ува ўсіх установах і школах уводзіцца літоўская мова.

Гальванаўскас, у справе варункаў, пастаўленых Антантай датычна Клайпэды, заявіў, што гэтыя варункі надта цяжкія, а іншыя проста немагчымы. Што датычыць выплаты страт, прыпадаючых на долю Клайпэды,—дык Літва, як не падпісаўшая Вэрсальскага трактату, адмаўляецца ад уселякіх выплат на карысьць Антанты. Літва таксама ня можа згодзіцца прызнаць такія самыя правы для чужаземцаў, як і для грамадзян Клайпэды. Адносна удзелу Польшчы ў арганізацыі партовай улады ў Клайпэдзе Гальванаўскас адзначыў, што Літва ня зьвязана ніякім дагаворам, апіраецца толькі на сваю волю і не падпіша ніякага дагавору, ў якім былі-б прызнаны прывілеі Польшчы.

**Польшча.** Міністар Унутраных спраў унёс да Сойму праэкт уставы аб абавязковым „meldowaniu".

Рада Міністраў прыняла праэкт аб адмене цэлага раду істнуючых агранічэньняў у справе прадажы алкаголю.

Прадажа гарэлкі і сьпірту дае вялікі даход дзяржаве, так у першай палове м. г. даход гэты даў 25.379 мільярдаў марак—у 25 разоў больш, як усе падаткі на зямлю, а калі праэкт гэты пройдзе ў Сойме, дык даходы яшчэ павялічацца.

Байчэй як у царскай Расеі!..

У Маскве распачаліся нарады аб заключэньні польска-савецкай пачтова-тэлеграфнай канвэнцыі.

**Нямеччына.** Адбылося надзвычайнае паседжаньне рэйхстагу з прычыны далейшай акупацыі французамі нямецкай тэрыторыі. Многія дэпутаты дамагаюцца разрыву дыплёматычных зносін з Францыяй, а нават і аружнага змаганьня.

Лік безработных у акупаваным абшыры расьце: ў Дюсельдорфе правышае 25.000, у Кёльне—10.000, у Дюргэйме — 10.000 асоб, таксама і ў другіх мясцох зачыняюцца фабрыкі з прычыны недахвату вугля.

Усю беларускую зямлю п. Студніцкі лічыць проста пустою, беярусаў якбы ўжо зьністожанымі і Беларусь разглядае толькі як „добрую тэрыторыю для польскай калянізацыі“.

Усе тыя элемэнты, якія не паддаюцца палянізацыі, галоўным чынам праваслаўную частку беларусаў трэба проста фізычна выкараніць не застанаўліваючыся перад прымусовым высяленьнем...

Хай беларускі народ добра помніць тую раду, якую дае польскі публіцыст польскаму ўраду... „За тое золата, якое належыцца нам па Рыскаму трактату, трэба было купіць у савецкіх уладаў у Расеі зямлі для пасяленьня эвакуаваных мужыкоў з нашых усходніх земляў. Заместа крэдытаў на адбудову іх зруйнаваных гаспадарак, трэба было даць крэдыты на адпраўку варочаўшыхся на бацькаўшчыну беларускіх сялян... у Аргэнтыну альбо Бразылію“ ..

Як тры сталецьця назад польская шляхта спаланізавала беларускае шляхоцтва, дык і цяпер Польшча, ідучы на ўсход выпаўніць свае культурнае—паланізуючае прызваньне.

Гэта піша чалавек у цьвёрдай памяці і здаровым розуме ў XX сталецьці, ў самым асяродку Эўропы,—ў дзяржаве, якая так хваліцца сваею „вышэйшай культурай“.

Ня пушчаючы ў нашы гарады ні жыдоў, ні расейцаў, ні беларусаў, трэба перасяляць туды палякаў... з Амэрыкі і Нямеччыны. Беларускіх мужыкоў для лепшай паланізацыі трэба ганяць на работы ў Заходнюю Польшчу. І дзёшава і служыць „дзяраўнаму інтэрасу Польшчы“

„Беларуская школа — абсурд—безталкоўшчына!“ — усклікае аўтар. Яна толькі „распаўсюджывае варварства—, а зусім ня прасьвету. „Яшчэ большым абсурдам зьяўляюцца беларускія гімназіі“. За беларускія гімназіі аўтар дамагаецца... кары... за падмену адукацыі—шкоднай „агітацыяй“...

Не забыты і беларускія каапэратывы, гэтыя „гнёзды антыпольскай агітацыі“, якія, абавязкова, павінны быць зьнішчаны.

Злосна бесьціць аўтар усіх прыяцеляў беларускага народа, за тыя сымпатыі, якія маюць яны да беларусаў, спачуваючу ім у іх палажэньні.. ў іх залежнасьці ад... п.п. Студніцкіх—як латышы, чэхі, літоўцы і іншыя... Тое, што робіць Чэхія для беларускіх студэнтаў, выклікае ў Студніцкага асаблівую злосьць, як акт антыпольскі.

Аўтар вымагае, каб праваскаўнае духавенства ўзгадоўвалася ў польскім духу... нават жонак для папоў радзіць узгадоўваць у спэцыяльных „разсадніках“ паланізацыі...

Нарэшце, сам мусіць мала веручы ўва ўсе гэтыя срэдствы і цудатворчую сілу „польскай культуры“, аўтар ракамандуе, як срэдства, якое не завядзе, проста... падкупліваць выдатнейшых беларускіх дзеячоў, спакушаючы „асабістай карысьцяй“, застаўляць іх прадаваць Польшчы беларускую нацыянальную справу...

Усё, што напісана Студніцкім, можа быць вытлумачана толькі, што аўтар альбо... хворы патрабуе адпачынку — ў Творках ці Вялейцы... альбо проста ў яго, як кажуць, „ня ўсе дома“...

Калі-ж ўсе гэтыя агідствы і глупствы, што праз яго апублікаваны, напісаны ім сур'ёзна і з поўнаў сьвядомасьцю, дык на іх Беларускі Народ можа адказаць толькі пагардаю.

# ДОПІСЫ.

## М. Ліда.

(Ад ўласнага карэспандэнта).

Наша места, якое за часы свайго істнаваньня шмат пабачыла ўсяго на сваім вяку, перажывае і цяпер цяжкія часіны. Ліда—гэта на нашых беларускіх абшарах зьяўлялася і зьяўляецца варотамі, праз якія праходзілі заўсёды войскі змагаючыхся усходу і заходу. Значэньне мяйсцовасьці, на якой пабудована Ліда, дакладна зразумеў у свой час Літоўска-Беларускі князь Гэдымін і пабудаваў тут вялікі замак. І дагэтуль стаяць руіны гэтага замку; старадаўныя таўстыя яго каменныя сьцены з задзіўленьнем узіраюцца на тое, што цяпер дзеіцца ў нас. А дзеюцца рэчы ненармальныя,дужа і дужа дрэнныя. Каб не казаць у агульным відзе горкай праўды і не падвясьці нашу газэту пад канфіскаты, якія высьвятляюць яскрава варункі жыцьця тут пэўнай часткі беларускага грамадзянства.

З прыходам сюды польскай улады была адабрана ад праваслаўных беларусаў ядыная ў месьце царква, якая ніколі ня была касьцёлам і пабудована была праваслаўнымі. Уся зямля, належачая да царквы, адабрана ад царкоўнага прычта а таксама і дом, які быў пабудаваны высілкамі праваслаўнае парафіі. Сьвяшчэньнік пазбаўлены сваёй кватэры і прымушан мець куток для сябе ў прыватнай сямьі.

Праваслаўных парахвіян Лідскае царквы налічаецца да 4000 чалавек, якія, пазбаўленыя сваёй грасторнай каменнай і ядынай царквы прымушаны цяпер сілаю рэчаў маліцца ў невялічкай цэркаўцы-капліччы на могілках, якая знойходзіцца ад цэнтра места, пры выезьдзе з Ліды, і ў ранейшыя часы была толькі местам адпяваньня нябожчыкаў. Царква гэтая ніколі ў сьвяточныя дні, а асабліва ў такія сьвяты, як Каляды, Вялікдзень, ня можа зьмесьціць і дзесятай часткі ўсіх, якія хочуць памаліцца.

І гэткі парадак рэчаў адбываецца тут і да гэтае пары, ня гледзючы на ўсе стараньні і клопаты перад польскай уладай мяйсцовага сьвяшчэньніка і парахфіян. Царквы, забранай самапраўна, да гэтуль не варочаюць, хоць пэўныя нават польскія кругі і інстанцыі ўлады сьцьвярджаюць, што царква гэтая ніколі не належала да каталіцкае люднасьці, а роўна не складае і здабычу вайсковую. Урэшці пад рознымі фармальнасьцямі Адміністрацыйны Трыбунал зусім адмовіў праваслаўнаму прычту ў праве на гэтую царкву.

Наогул стан рэчаў тут надта і надта дрэнны. Апрача вышэй паказанага уціску рэлігійнага для праваслаўных беларусаў, школ беларускіх тут, у Лідскім павеце, нам адчыняць не даюць. Нават даходзіць наш павятовы польскі школьны інспэктар да таго, што жыхароў вёскі Альхоўка Дакудоўскае гміны, якія дамагаюцца ўвесь час беларускае школы для сваіх дзяцей, застрашывае, што будуць яны караны, калі ня будуць пасылаць дзяцей у школу польскую, якая ўжо даўно адчынена ў Альхоўцы, але пустое. Ну вядома, сяляне нашыя не такія ўжо цяпер палахлівыя і гэтых хітрых ходаў інспэктара не баяцца.

Гмінныя рады ў нашым павеце зложаны з людзей, не адпавядаючых жаданьням люднасьці, а дзеля гэтага няўсюды прыймаюцца ухвалы аб адчыненьні беларускіх школ.

Прыемнай весткай для нас зьяўляецца, што ў хуткім часе, як гмінныя рады, так і соймікі павятовыя маюць быць перавыбраны ня толькі ў другіх беларускіх паветах, але і ў нашым.

25 лютага прыяжджаў у Ліду дэпутат Сойму Сымон Рак-Міхайлоўскі. У былым памешканьні Беларускага Выбарнага Камітэту адбыўся мітынг, на якім дэпутат Міхайлоўскі інфармаваў прысутных аб працы ў Сойме Беларускага Пасольскага Клюбу, аб тактыцы Клюбу і казаў аб патрэбе арганізаваньня на мяйсцох, каб агульнымі сіламі паляпшыць сучасны стан рэчаў і праўнае палажэньне беларускай люднасьці пад польскай ўладай. Дэпутат прыняў масу жалаб з сярод сабраўшыхся, якія былі звольнены са службы на чугунцы і тэлеграфе, як людзі тутэйшыя і праваслаўныя, бо не выяжджалі з Ліды ў часе польскай эвакуацыі ў 1920 годзе. Дэпутат Міхайлоўскі ад імя Бел. Пас. Клюбу дакляраваў даць ход гэтай справе.

Вечарам гэтага-ж дня быў зарганізаваны ў Лідзе Сэкрэтарыят Беларускага Пасольскага Клюбу, кіраўніком Сэкрэтарыяту быў абраны грам. Калясінскі Уладзімір. Сэкрэтарыят месьціцца на вул. 2 Слабодка, д. № 8.

5-га лютага згодна прысуду Віленскага Доразнага Суду былі разстрэлены ў Лідзе сяляне: Язэп Гойла, Ян Карповіч, Ян Місевіч і Язэп Грыць за аружны напад на аднаго з мясцовых жыхароў.

**Лідчанін.**

## М. Браслаў.

Брацлаўскі стараста выдаў загад, каб на рынку прадавалі збожжа ня даражэй, як 12.000 марак за пуд, а хто прасіў даражэй таго арыштоўвалі.

Наагул тутэйшыя „касукі“ робяць, што хочуць. Так „Komenda Pol. Pan.“ яшчэ ў 1919 годзе заняла дом М. Лапуры і дагэтуль нічога ня плаціць. Усе захады перад вышэйшымі ўладамі старога і хворага гаспадара ня далі ніякіх вынікаў. Нарэшце была зроблена і падпісана ўмова, але вышэйшая інстанцыя не зацьвердзіла яе, і komenda прапануе плаціць яму як за прошлы час, так і за будучы па 1800 марак у месяц, у той час, як рамонт будынку каштуе мільёны, а адзін толькі падатак на нярухомасьць выносіць 40.000 марак у год!

**Чапяла.**

# З беларускага жыцьця.

У нядзелю 4 сакавіка адбылося паседжаньне прэзыдыуму Цантр. Бел. Шк. Рады і вычыцялёў Белар. пачатковых школ у Вільні. Абгаварывалася пытаньне аб арганізацыі дзіцячых спэктакляў у пачатковых школах і інш пытаньні.

Пад Горадняй у слаях дылювіяльнай гліны на глыбіні 5 мэтраў знаходзяць шмат бурштыну (янтару); пападаюцца кускі разьмерам 6×3×2 см.

Пры Віленскай Духоўнай Сэмінарыі арганізаваўся з пэдагогаў і вучняй гурток для ізучэньня беларускай мовы, літэратуры і культурных вартасьцяў края.

4-га сакавіка адбыўся агульны сход сяброў Беларускага Грамадзянскага Сабраньня, на якім адбыліся давыбары ў Рэвізыйную Камісію і ў Раду Старшынь.

Беларускае Грамадзянства рыхтуецца да ўрачыстага абходу 5-х угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі. Для правядзеньня сьвяткаваньня заснованы Камітэт, у склад якога ўваходзяць прадстаўнікі ад усіх арганізацый. Прапануецца выдаць аднаднёўку, урачыстыя набажэнствы, ладзіцца рэфэрат, спэктакль, мітынг і гарбата для запрошаных гасьцей. Няведама як удасца зьдзейсьніць усе гэтыя праекты, бо, напрыклад, літоўцам ня было дазволена абходзіць свайго сьвята.

11 лютага г. г. Нясьвіжская Беларуская Мяшаная Гімназія ладзіла Беларускі Бал-Канцэрт на карысьць незаможных вучняў і вучаніцаў Гімназіі.

Вучаніцамі вельмі ўдала была згуляна п'еса Аляхновіча „Чорт і Баба“.

Урэшце хор гімназіяльны пад кіраўніцтвам вуч. Я. Шнаркевіча прапяяў Беларускі Гімн і беларускія народныя песьні. Хор выступіў у беларускіх нацыянальных касьцюмах і ўжо трэйці раз сваімі пекнымі сьпевамі здаволіў нясьвіжскую публіку.

Пасьля спэктаклю скокі пачаліся беларускім нацыянальным скокам „Лявоніхаю“, якая так упадабалася моладзі, што ў працягу вечарыны была выпаўнена некольki разоў.

З дазволу Куратара Палескага Вучэбнага Вокругу ў бягучым 1922-23 вучэбным годзе уведзены і выкладаюцца ў сярэдніх і старшых клясах Нясьвіжскай Беларускай Гімназіі Беларуская мова, Гісторыя Беларускай літэратуры і Гісторыя Беларусі.

### З жыцьця студэнтаў беларусаў у Вільні.

Даўно адчуваецца ў жыцьці віленскага беларускага грамадзянства вялікае імкненьне да того, каб неяк супольнымі сіламі вырашыць шмат пытаньняў, падчас надта балючых, якія высоўваюцца на парадак дня. Каб здаволіць гэта жаданьне Беларускі студэнцкі Саюз прыступіў да арганізацыі публічных лекцыяў, у якіх і будуць закрануты па меры магчымасьці найбольш актуальныя пытаньні Лекцыі будуць з дыскусіямі. У першы чарод наладжаны такія лекцыі:

1) „Унія на Беларусі у мінуўшчые і будучыне“, часьць якой прачытаў 4 сакавіка студэнт Грынкевіч.

2) „Жыды на Беларусі“ — Абрамовіч.

3) „Эканамічнае становішчэ Беларусі а незалежнаць“ — Пяткевіч.

Лекцыі будуць чытацца кожную нядзелю а гадз. 3 п. п. у памешканьні Белар. Грамадз. Сабраньня (Біскупская 12, II пав.).

У нядзелю чародную 11 лютага гр. Грынкевіч прачытаець: „Унія на Беларусі ў мінуўшчыне і будучыне“ (працяг).

### У Віленскай Беларускай Гімназіі.

Гімназіяльны Гурток, які апошнімі дняміператварыўся ў Вучнёўскую Раду вядзе даволі інтэнсыўна культурна прасьветную і ўзгадоўчую працу. Апрача ладжаньня спэктакляў, дужа добра сёлета чытаньне рэфэратаў, якія чытаюць вучні амаль ня кожны тыдзень. Да гэтуль рэфэраты былі прачытаны на гэткія тэмы: „Мова і яе значэньне“, „Роль Купалы ў адраджэньні Беларусі“ і „Беларусы ў Полацкім і Літоўска-Беларускім пэрыядах“. Вельмі цікавым быў ў прошлую нядзелю 4 сакавіка літэратурны суд над Рудзіным (па раману Тургенева) пад кіраўніцтвам вучыцеля п. Красінскага. Суд гэты выклікаў вялікае зацікаўленьне ўсяе Гімназіі, а таксама выдзяліў шмат здольных „праўнікаў“. Прысяжныя прызналі грам. Рудзіна вінаватым, але заслугоўваючым змяншэньня кары і пастанавілі ня лічыць Рудзіна прыкладам грамадзянству. Уражэньне ад суда засталося наагул добрае і дало наглядна‌е разуменьне судовае справы.

Вучні, падаўшыя на зацьверджаньне Пэдагагічнай Радзе статут Вучнёўскага Каапэратыву, атрымалі згоду і неўзабаве капэратыў пачне сваю дзейнасьць.

Ладзіцца на 18 сакавіка вечарына, каб палепшыць матэр'яльнае становішча гуртка.

Шпарка развіваецца справа скаўцтва. Першая Віленская Беларуская Дружына скаўтаў мае на мэце наладзіць вечарыну пераважна з гімнастычнымі намерамі. Скауты маюць свой струнны аркестр.

Як бачым, вучашчаяся моладзь Гімназіі нашла добрыя абставіны і адпаведнае кіраўніцтва для сваей дзеяльнасьці.

**Ч—мр.**

# З ВІЛЬНІ.

### Літоўскія справы.

25-га лютага адбыўся гадавы сход віленскіх літоўцаў. Выбраны новы Камітэт, а старшынёй Камітэту д-р Альсэйка.

Месцовай уладай закрыты ўсе Літоўскія газэты.

У літоўскай кнігарні зроблены вобыск.

Адбыўся абход 40-х угодкаў літоўскай прэсы.

# Курс на грошы.

(Віленская біржа.)

За 10 сакавіка.

| | |
|---|---|
| Долары . . . . . . . | 44.500—44.050 |
| Латвійскія рублі . . . . . | 167—160 |

# Свая пошта.

**В. Сумнаму. Прага.** Вашыя вершы не падыйшлі ў нашу газэту—яны аддадзены ў „Krynicu“. Кіньце дакучлівы, перапеты „сьлёзны тон“ Есьць ўжо ў нас бядуля, гаротны, маркотны, пакуцкі, журба, час ўжо нам мець сваіх радасных, вясёлых, бадзёрных, буraломаў і т. д. Пасьля брыдка Вам на каленках „перад Маткай—Дзявіцай“ маліць спакою і цішы. Хіба Вас жыцьцё і навука не давялі да тэй элемэнтарнай праўды, што здароваму чалавеку патрэбна не ціша і спакой, а барацьба і музыка жыцьця і што Пярун ня быў бог, — ён цяпер—душа паслушных нам машын.

# Сэкрэтарыяты Беларускага Пасольскага Клюбу.

1) **Вільня,** Віленская вул. № 12 кв. 6.
2) **Ліда,** II Слабодка № 8 сэкрэтар Калясінскі.
3) **м. Глыбокае,** Дзісьненскага павету, вул. Сянкевіча № 46.
4) **Жодзішкі,** Съвенцянскага пав. кс. Годлеўскі.
5) **Наваградак,** Вялікі Рынак 14, сэкр. Ян Біруковіч.
6) **Нясьвіж,** Альбянская 28, сэкр. Ян Шнаркевіч.
7) **Столбцы.**
8) **Баранавічы.**
9) **Горадня,** Мастовая 9.
10) **Валкавыск,** Пясковая 14.
11) **Бельск,** Замковая вул. № 3. кв 1 сэкр. Канстанцін Карыцкі.
12) **м. Саколка,** Горадзенская вул., № 34.
13) **м. Клешчэлі,** Бельск. павету, вул.
14) **м. Крынкі,** Горадзэнскага павету, Горадзенская вул. № 34.

### Зьмена пагоды.

11 сакавіка сьнег, 12 сьцюжа, 13—14 ясна з мароз. на раніцы, 15 сьнег, 16—17 ясна і марозна, 18 дужа сьцюдзена, 19—20 сьнежна, 21 вецер, сьнег, холад, 22—31 вострая сьцюжа, мароз.



Рэдактар-Выдавец **Я. Лагіновіч.**

Друкарня **С. Бэккера**, Субач, 2.